-57-

# Зямлі, зямлі дайце!

Кліч гэты лунае па ўсей Заходняй Беларусі: дзе ня зьявішся, дзе ні пачнеш гаварыць аб палепшаньні сельскай гаспадаркі, усюды чуеш голасныя крыкі — зямлі, зямлі дайце! І вось, займаюцца пытаньнем, ці ёсьць якая колечы надзея, каб беларускі селянін у цяперашніх умовах атрымаў зямлі, хацяб паводлуг апошняга закону аб парцэляцыі. Так, права, праўда, ёсьць, але надзеі — няма. Паны і ўзазапраўду абяцаліся што году парцэляваць пэўную колькасьць зямлі за грошы і па тэй цане, якую самі ўстановяць — значыць зямельная рэформа зацягіваецца на некалькі дзесяткаў гадоў, ды тую зямлю будуць купляць багацеі, а ня наш селянін, у якога за душой і меднага грошыка няма. Горай, там, у законе, як вол стаіць, што пяршэнства ў набываньні зямлі маюць заслужаныя польскія ваякі і іх сем'і, а не мяйсцовыя сяляне, каторыя ў сусьветнай барацьбе лажылі галовы, насьледкам чаго і Польшча адваявала сабе незалежнасьць—забыліся, знаць, аб тым панове? І так, якую-ж могуць мець надзею нашы сяляне на павялічэньне сваіх паўдзесяцінных гаспадарак?—Ніякай. Якую-ж могуць мець надзею на куплю тэй крохі зямлі нашы беззямельныя, халупнікі сяляне?—Ніякай. Якую-ж могуць мець надзею на куплю зямлі, хоць-бы нашы і багацейшыя сяляне? Ой, малую, ды хутчэй—ніякай. А тая сямігадовая правалока з зямельнай рэформай, што нясе нашаму селяніну, а з ім і працоўным гарадоў і сёл у галодныя гады—галодную сьмерць. Пэрспэктывы таго ўжо бачацца. Маем недарод азіміны, бульбы пасаджана мала, бо зямлі няхват. Як пакажуць ярыны, няма-ведама; за недародам хлябоў пойдзе падзеньне скаціны, а за імі галодная сьмерць дзетак і сялян і так далей... І што-ж рабіць? Ня можам заламліваць рук, мусім усе, як адзін, бароцца за свае правы, не забываючы галоўнай нашай мэты: **зямля працоўнаму сялянству бяз выкупу.** Мусім арганізаванна дамагацца, каб зямля была парцэлявана перадусім паміж мяйсцовымі жыхарамі вёсак, мусім арганізаваць свае сельскія і земляробскія каапэратывы, якія маюць правы згодна з законам, набываць і парцэляваць зямлю, на ўсіх сходах у валасьцёх і зьездах соймікаў ды ў прэсе мусім пратэставаць проціў несправядлівых для мяйсцовага насяленьня пастаноў акружных і павятовых зямельных урадаў. Хай той кліч нашага сялянства: **зямлі, зямлі дайце!** абаб'ецца аб вушы нашага новага ўраду і тэй нездэмаралізаванай часткі польскага прадстаўніцтва, якая хоча ў згодзе жыць з намі; хай, пакуль пара, польскі народ абдумаецца, якая вялікая крыўда дзеецца нашаму народу.

---

*Я. Кісьлякоў.*

# Тып беларускай сялянскай гаспадаркі.

*(Эканамічны нарыс на падставе рахункова-агранамічнага досьледу).*

Дзеля знаёмства з цяперашнім палажэньнем сел.-гас. у Б.С.С.Р. падаемо эканамічны нарыс Я Кісьлякова, каторы ілюструе тыповую сельскую гаспадарку Беларусі.

## I

Кожная сялянская гаспадарка для атрыманьня найвышэйшага прыбытку павінна быць дакладна прыстасована да тых умоў, у якіх яна знаходзіцца.

Знадворных умоў, ад якіх залежыць будова гаспадаркі, надта многа: тут і прыродныя ўмовы (глеба, вільгаць, колькасьць сонцавай энэргіі і яе размеркаваньне на працягу году і г. д.), тут і юрыдычныя ўмовы (правы зямлякарыстаньня, арэнды, права найму, дадатковае працоўнае сілы і г. д.), урэшце, і галоўныя — розныя эканамічныя ўмовы (адлегласьць ад замежнага рынку, ад бліжэйшых мястэчак і гарадоў; цэны на гэтых рынках, як на розныя с.-г. прадукты, так і на тавары індустры, розныя мерапрыемствы, як агульнай эканамічнай палітыкі, так і спэцыяльна сельска-гаспадарчай, сыстэма падаткаў і г. д.).

Усе гэтыя ўмовы ў кожнай паасобнай частцы тэрыторыі дзяржавы складаюцца парознаму, а, значыць, вымагаюць і рознае будовы гаспадарак тае ці іншае краіны, раёну.

Але і ў межах асобных раёнаў гаспадаркі не аднолькавы. Розная колькасьць зямлі, працы, сродкаў вытворчасьці (капіталы), якую мы бачым у індывідуальных гаспадарках аднэй і тэй-жа вёскі — вымагаюць ад гаспадароў парознаму адказваць на аднолькавыя знадворныя ўмовы, парознаму будаваць гаспадарку.

Урэшце не апошняе месца ў будове гаспадаркі мае і асоба гаспадара з яго культурным разьвіцьцём, здольнасьцямі і гаспадарчымі нахіламі.

У выніку ўсяго гэтага, калі мы больш уважліва прыглядзімся да гаспадарак, дык убачым вялікую разнастайнасьць іх пабудовы.

А як-жа быць з вывучэньнем гэтых гаспадарак? Няўжо трэба паасобку дасьледваць кожную з 1.300.000 сельскіх гаспадарак, якія ёсьць на Беларусі, для таго, каб зразумець, чым наагул адзначаецца наша сельская гаспадарка?

Сялянскія гаспадаркі, ня гледзячы на іх індывідуальныя адзнакі, маюць у межах тае ці іншае краіны, раёну агульныя рысы і належаць да аднаго і таго-ж тыпу.

Добра, згодзіцца чытач, магчыма і цікава ведаць тып шэрагу гаспадарак, але ці ёсьць якія падставы гутарыць аб тыпу сялянскіх гаспадарак усей Беларусі, калі іх мільён з чымсь і калі яны раськіданы па гэткім вялікім абшары. Мо' для гэткай колькасьці гаспадарак, якія знаходзяцца ў відавочна розных умовах, няма сэнсу шукаць агульнага тыпу гаспадаркі?

Зразумела, што для меншага ліку гаспадарак лягчэй знайсьці тыповую, і тым менш будзе адрозьнівацца ад гэтага тыпу кожная га-

спадарка паасобку. І калі мы бярэм сялянскія гаспадаркі ўсей Беларусі і шукаем сярод іх тыповую, мы павінны ведаць, што паасобныя гаспадаркі будуць значна адрозьнівацца ад таго тыпу, які мы для іх устанаўляем. Але разам з гэтым ёсьць сэнс выяўляць тып сялянскай гаспадаркі Беларусі, як гэта робіць антрополёгія, калі яна дае тып асобных нацый (беларус, немец, швэд і інш.). Ува ўсякім разе агульна-беларускі тып сялянскае гаспадаркі будзе значна іншым, чым тып сялянскіх гаспадарак іншых краін.

Як адшукаць гэты тып? Ёсьць розныя мэтоды. Матар'ялы для гэтага нарысу атрыманы наступным мэтодам. Па тэрыторыі Беларусі— узята 14 тыповых валасьцей, дзе ўзята па аднэй тыповай вёсцы, а ў апошняй па 8 тыповых гаспадарак. Гэтыя 112 гаспадарак дасканальна дасьледваны па мэтоду рахункова-агранамічнага аналізу, і на падставе іх, як сярэдняе, атрыман той тып сялянскае гаспадаркі Беларусі, аб якім будзе зараз гутарка. Гападарчым годам для нашай гаспадаркі зьяўляецца 1-га красавіка 1923 г.—1-га красавіка 1924 г.

(Далей будзе).

*Сьц. Туркін.*

## Выраб поля перад севам жыта.

Вельмі каштоўна своячасова ўзьмяшаць папар пасьля заворваньня гною. Мяшаць ці дваіць трэба якраз тады, калі гной так перапрэе, што салома будзе лёгка рвацца, а кавалачкі гною будуць добра разьдзірацца. Каб гэты момант не прапусьціць, дык трэба кожны дзень хадзіць на поле, даставаць гной і прабаваць, як лёгка рвецца яго салома. Толькі пры мяшані ў гэты час гной добра дапамагае вырабу поля: ён робіць зямлю дробна-глыбкаватай, а самыя глыбкі моцнымі. Ляпей узьмяшаць папар на дзень раней, чым прапусьціць гэту пару. Узьмяшаўшы папар хаця-бы на адзін дзень пазьней, ураджай значна зьмяншаецца. Бываюць выпадкі, калі ад гэтага гаспадар не дабірае ўраджаю на 20-25 проц. Рухавы гаспадар напэўна будзе сачыць за пераправаньнем гною і папар узьмяшае ў час.

Наагул-жа, апошнюю ворку папару трэба рабіць за 2-3 тыдні да севу азіміны, ня гледзячы, які выраб папару быў да гэтага часу.

Калі азіміна будзе пасеена ў сьвежую ральлю кепска выробленага поля, дык увосень пасьля зьяўленьня ў жыце вузла кушчэньня зямля пачынае асядаць, вузёл кушчэньня[1]) агаляецца і куст азіміны стаіць быццам на падпорках (на сваіх карэньнях). З надыходам зімы, калі такой азіміны ня прыкрые хутка сьнег, большая частка яе вымерзьне, бо ў вузлох кушчэньня знаходзяцца вельмі кволыя часткі расьліны. Звычайна яны не павінны агаляцца і паказвацца з зямлі.

Калі пасьля зімы што-небудзь і ўцалее, дык ад першага добрага дажджу ці ветру жыта будзе падаць і ўраджай будзе зьніжаны.

Папар заняты (выка з аўсом ці іншыя расьліны) вырабляецца крыху інакш. Там за лета вельмі шмат патрацілася полем вільгаці на ўзрост расьлін. Яшчэ больш яе дарэмна патраціцца пасьля скосу мяшанкі, калі апазьніцца з воркаю. Каб гэтага ня было, патрэбна пасьля скосу мяшанкі ці другой расьліны дзеля сушкі іх зьвезьці з

[1]) Вузёл кушчэньня—частка кораню, адкуль выходзяць сьцяблінкі азіміны.

папару на другое месца, а папар у той-жа дзень мелка ўзараць (на поле „надзець кажух“), каб затрымаць вільгаць.

Як толькі цераз 1-2 тыдні папар зазелянее ад сорных траў, трэба яго пацягнуць пружыноўкай. Далей, за тыдні 2-3 да сева азіміны ўзараць на поўную глыбіню.

Апроч таго, трэба сачыць, каб усялякі папар не заставаўся доўгі час прыплесканым даждзом, бо гэта вельмі стратна дзеля вільгаці.

Ад апошняй воркі да севу жыта часта даводзіцца адзін, а то й два разы пускаць па полю пружыноўку, каб зьніштожыць шкодныя расьліны і ўспульхніць прыплесканую глебу.

Барана пасьля мешані і да пасеву жыта ні ў якім разе ня ўжываецца. Ураджай жыта па лубіну ў значнай меры залежыць ад вільгаці поля на працягу ўсяе восені, бо яна патрэбна, каб лубін добра пераправаў пасьля заворкі. З заворкаю яго ня трэба пазьніцца. Пасеў азіміны можна рабіць толькі тады, калі зямля добра асела.

Пасеў азіміны пасьля бульбы асаблівага вырабу поля не патрабуе. Трэба толькі ў папары сеяць раньнія сарты бульбы і выкапваць іх загадзя. Інакш на бульбянішчы азіміны лепей ня сеяць.

*Т. Куніцкі.*

# Штучныя гнаї

(дальшы цяг).

**Амонавы серчан.**—Гэта павязаньне серчанага квасу з аманьякам [$(NH_4)_2SO_4$]. Атрымоўваюць яго пры фабрыкацыі сьвяцільнага газу і коксу. Гэта белаватая соль, якая распускаецца лёгка ў вадзе. Гной гэты мае ў сабе 19—21% азоту. Амонавы серчан уплывае менш энэргічна і ня так хутка, як сялітра, дзеля таго што зямля затрымоўвае аманьяк. З прычыны затрыманьня аманьяку, амонавы серчан уплывае даўжэйшы час і вада не выпаласківае яго ў ніжэйшыя слаі. Што праўда, расьліны могуць забіраць азот ў форме аманьяку, але большая частка яго пераходзіць пад уплывам нітрыфікацыйных бактэрыяў у сялітру і гэтай сялітрай узгадоўваюцца расьліны Нітрыфікацыя гэта як-бы замена аманьяку на сялітру, што асабліва хутка паўстаець у лёгкіх, мяккіх, вапністых землях.

Амонавы серчан можна ўжываць на ўсякіх землях, апрача кіслых, асабліва калі залежыць нам, каб ён павольна выкарыстываўся расьлінай.

Авёс і бульба выкарыстоўваюць амонавы серчан так сама добра, як і сялітру. Буракі ахватней забіраюць сялітру.

Амонавы серчан не выклікае, як сялітра, працэнтнага зьвялічэньня бялкоў у зярнятах і з гэтай прычыны серчан лепш падходзіць пад броварны ячмень, бо тут важна тое, каб ячмень меў як найменш бялку. Пры ўправе бульбы карысна йзноў ужываць серчан, бо павялічэньне бялкоў у бульбе абніжае працэнтнасьць крахмалу, а пры гэтым і бульба шмат горш перахоўваецца. Серчан можам ужываць пад азіміну ўжо з восені. Можна высеіваць яго і прад самай сяўбой, зьмяшаўшы добра з зямлёй.

Як гной, на ўсялякую зямлю серчан не надаецца. Ен не расходзіцца ў зямлі, бо зямля яго затрымоўвае. Галоўным чынам трэба

зважаць, каб абавязкова ня ўжываць серчану на вапністых землях. бо тады вапна выдзяліць аманьяк у паветра. З гэтай самай прычыны ня можна мяшаць амонавага серчану з азатняком, тамашаўкай і нагул з матэрьяламі, якія маюць у сваім складзе вапну.

**Нарвэжская сялітра**—гэта павязаньне азогнага квасу з вапнай. Азот да гэтай фабрыкацыі бярэцца з паветра пры сільных электрычных выладоўваньнях.

У нарвэжскай сялітры маем да 13% азоту і розьніцца ад чылійскай сялітры тым, што ў апошняй азот зьвязаны з содай, а ў нарвэжскай з вапнай. Гэта вельмі карысна, бо вапна не выклікае заскарупленьня ральлі. Нарвэжская сялітра навет яшчэ больш гігроскапійная ад чылійскай і калі нацягне вільгаці, расплываецца. Ужываем яе так, як і чылійскую сялітру.

**Азатняк**—ёсьць павязаньнем вапны з ціянам [Ca $(CN)_2$]; звычайна мае 17—20% азоту і 55—60% вапны. Як ціянамід вапны, азатняк ня толькі ня можа быць пажыўным для расьлін, але нат зьяўляецца для іх—атрутай. Толькі ў ральлі, пад уплывам вугальнага квасу і вады ператвараецца ў мачавіну, пасьля на аманьяк і ў канцы на сялітру. У паветры пад уплывам цяплыні, самага паветра і вугальнага квасу пераходзіць у павязаньне, так сама шкоднае (двохціян двохамід) і ў гэткай форме ня так лёгка раскладваецца. Пры гэтым комшыцца (зьбіваецца ў груды), павялічвае аб'ёмнасьць і такім чынам расьпірае мяхі й бочкі. Перахоўваць яго трэба ў сухіх мяйсцох і прыкрываць тамашоўкай ды саломай. Перад высеўкай добра зьмяшаць з каінітам, бо ня так курыцца. Нішчыць вопратку і шкодна ўплывае на сьлюзавыя абалонкі носа й вачэй.

Найлепш прыдатны азатняк на лёгкія і торфавыя землі. На ўсіх іншых можна азатняк ужываць; надаецца ён і пад усялякія плады. Трэба рассяваць азатняк на 1—2 тыдні раней, чымся высейваць расьліну, каб у працягу гэтага часу мог разлажыцца і ўтраціць атрутныя свойствы.

Пасьля рассеяньня азатняку, належыць як найлепш зьмяшаць яго з зямлёй. Як галоўнага гною, азатняку ня ўжываюць, хіба толькі, каб вынішчыць шырокалістныя глушачыя травы, напрыклад, сьвірэпку—(рапуху) (Raphanus raphanistium). Калі на ярыну кінулася сьвірэпка і мае яшчэ толькі расткі, то высеены азатняк нішчыць расткі, а праз гэта і цэлую расьліну.

Што праўда і самая ярына цярпіць ад азатняку, але ўжо пасьля некалькіх дзён прыходзіць да сябе, набіраючы цёмна-зялёнага колеру. На сенажацях азатняк губіць мох.

*А. І. Шохар.*

## Аб часе уборкі балотнай сенажаці *).

*(З прац Забалоцкае балотнае гаспадаркі).*

Балотныя сенажаці, як даводзілася назіраць за імі ў межах былшага Рагачоўскага павету, сяляне косяць позна; пры гэтым самі яны такі парадак тлумачаць тым, што хочуць мець больш сена.

*) Досьледы вяліся на плошчы ў 1/4 дзес., якая ў 1923 годзе была занята зімовым жытам па калі-фосфатнаму ўгнаеньню.

Гэта чыста практычнае пытаньне было праверана ў 1924 годзе ў дасьледчай гаспадарцы на кавалку балота, якое было запушчана пад сенажаць бяз штучнага падсеву траў.

Скос сенажаці быў зроблен у 5 тэрмінаў, на пяці роўных кавалках; касіліся яны цераз 10 дзён адзін за другім.

Агульны характар травастою пры невялікім ліку добрых траў вызначыўся к канцу траўня. У гэты час былі ў поўным цьвеце казялец гостры (Ranunculus acer L), зязюлін цьвет (Lychnis Flos cuculi L), шчаўе і розныя лугавыя травы, як мятліца (яна выкідала мяцёлку); унізе травастою былі мурожніца чырвоная (Festuca rubra L), сітнік (Jucus L), маруна ўчэпістая (Galium Aparine L), званец (Alectorolophus), гарчакі (Polygonum L) і г. д.

К моманту першае касьбы (17 чэрвеня) ў поўным цьвеце былі такія травы, як мятліца (Poa pratensis L), палявіца белая (Agrostis alba L), мурожніца чырвоная (Festuca rubra L) і інш. Яны былі значна прыметны, але прадаўжалі яшчэ панаваць казялец і зязюлін цьвет.

Сабранае сена ў гэты тэрмін на пагляд было зялёнае, тонкае, мяккае; ураджай у пераліку на дзесяціну быў блізак да 190 пуд.

Пры скосе другога кавалку (27 чэрвеня) такія травы, як мятліца і мурожніца значна парыжэлі; з іншых траў казялец атрутны, зязюлін цьвет адцьвятаюць, а на зьмену ім падняўся казялец вогнікавы (прышчапец) і званец; зрэдка прымешваюцца высокія палявыя сарнякі, як палявіца сабачая (Agrostis canina L) і каласаўнік жытавы (Bromus secalinus L).

У сабраным сене таксама ёсьць іншае зельле (featureнатраўе), але характар сена травяністы і больш-менш мяккі; сена мала розьніцца ад першага. Ураджай у пераліку на 1 дзес. больш 220 пуд. Гэта паказвае на прырост кармовае масы.

К часу скосу трэцяга кавалку сенажаці (8 ліпеня) ўсе памянёныя лугавыя травы амаль адкрасавалі; засталіся адны пустыя мяцёлкі; сакавітае веснавое іншае зельле таксама адцьвіло і загрубела. Пануюць казялец вогнікавы, званец, багата гарчакоў і асобныя сьцяблiны яшчэ маладых чальчаку звычайнага (Lythrum Salicaria L) і валяр'янкі Waleriana officinalis L). У сухім сене ўдзел добрых траў нязначны; іншае зельле, што цьвіло вясною, агрубела, а летняе — не дасягнула поўнага разьвіцьця. Якасьць сена ў параўнаньні з першымі ўкосамі зьніжаная; шмат саломістых траў і загрубелага зельля. Укос сена ў пераліку на 1 дзес. ўжо менш 200 пуд.

У 4 пэрыод скосу (18 ліпеня) травастой вельмі пераблутан. Ад лепшых траў засталіся сьцяблiны. Featureнае зельле таксама адцьвіло і асыпаецца, засьмечваючы сенажаць. Сярод агульнай масы травы выдзяляюцца цьвітучы чальчак звычайны, валяр'янка і сабачая мята. Ураджай сена ў гэты час на вагу найбольшы і даходзіць да 235 пуд. з дзес. Вага залежыць ад поўнага і магутнага разьвіцьця летніх зёлак разам з тоўстым і цяжка сохнучым сьцяблом сарнякоў. Сена складаецца з саломістага сьцябла траў, з зсохшага і загрубелага зельля з прымешкаю гарчакоў, пахучай сабачай мяты і інш. сьцяблін. Сена жорсткае і з сарнінамі.

Нарэшце, у часе апошняга скосу (28 ліпеня) пасохшыя травы зусім ня відны; featureнае зельле ў большасьці адцьвіло, асыпалася і поўзасохла. Зялёны выгляд сенажаці часткаю наддае сабачая мята, казялец (лютык) і цьвятучы скрыпень балотны (Epilobium palustre).

Ураджай сена цяпер зьнізіўся да 180 пуд. з дзес. Сена саломістае, цьвярдое і з выразна дзервяністымі сарнякамі.

Робім вынікі. Пачынаючы з моманту адзеравяненьня лугавых траў і веснавога зельля (17 чэрвеня), якасьць сена чым далей, тым усё больш падае, яго кармовая вартасьць павялічаецца да моманту найбольшага разьвіцьця летняга рознага зельля (18 ліпеня); пазьней з адцьветам летняга зельля ўраджайнасьць сенажаці значна падае; пры позным скосу (апошні тэрмін 28 ліпеня) адначасна з памяншэньнем ураджаю агрубеўшага сена, бывае на сенажаці і самасей сарнякоў.

Такім чынам, найбольшую **кармовую масу балотная сенажаць дае ў час разьвіцьця летняга зельля (15-20 ліпеня)**, але якасьць сена ў гэты час вельмі зьніжаецца і павінна дзеля гэтага зьбірацца **ў пэрыод поўнага цьвіценьня лугавых траў** (Poa, Agrostis) **і веснавога зельля.** Сена будзе хаця і менш вагаю, але якасьць яго падымаецца.

**Позны-ж скос балотнай сенажаці зусім не патрэбны і не карысны.**

*Праф. Ю. А. Вэйс.*

# Аб каапэрацыйным скарыстаньні машын.

Каапэрацыйнае карыстаньне машынамі справа ня новая. Яшчэ за доўгі час да вайны ў губ. Тульскай, Разанскай і суседніх з імі былі таварыствы, якія куплялі конныя малатарні, а на паўночным Каўказе было ня мала таварystваў, якія куплялі ня толькі конныя, але і паравыя малатарні.

Асабліва хутка пашыраліся гэтакія таварыствы ў Прыбалтыцкіх крёх, дзякуючы большай заможнасьці сялянства і досыць высокай тэхніцы сельскай гаспадаркі; напрыклад, у Ліфляндзкай губ. машынных таварystваў было ў 1910 годзе—10; ў 1911 г.—31; у 1912 г.—70 і ў 1913—116. У сярэднім на 1 таварыства прыпадала 16 сяброў, з агульнай сумай паявых складак 1300 руб. і сяброўскіх складак ад 25 да 100 руб.

Каапэрацыйнае карыстаньне машынамі ў параўнаньні з карыстаньнем паасобнымі гаспадарамі больш сходнае. Яно дазваляе купляць тыя машыны, праца якіх не аплачваецца ў дробных гаспадарках (напрыклад, жатка-снопавязка, трыер і інш.); на машыне працуюць большы час, чаму адлічэньні на яе выплату і проц. на капітал будуць прыпадаць у меншай часьці на адну дзесяціну выробленай зямлі або на адзін пуд прадукцыі; і яшчэ, могуць быць скарыстаны машыны, якія патрабуюць большага ліку рабочых рук і коней (напрыклад, малатарня, жатка-снопавязка).

Пры арганізацыі каапэрацыйных таварystваў па куплі машын трэба добра ведаць, якія машыны ў першую чаргу патрэбна мець таварystву.

Гэтае пытаньне разьвязваецца ня так лёгка і ў кожным асобным выпадку паіншаму, але ўсе-ж можна лічыць, што ў першую чаргу трэба рабіць тыя машыны і прылады, якія маюць вельмі малы тэрмін ужываньня (лугавыя бароны і плугі, сяўнікі) або тыя машыны, праца з якімі ня мае характару пільнасьці (трыеры, машыны па апрацоўцы валакна, часткаю малатарні).

Другое пытаньне, якое паўстае пры арганізацыі таварystва, гэта— ці арганізаваць таварystва для скарыстаньня толькі асобных машын

(напр., купляюць малатарню разам 3-4 гаспадары), ці арганізаваць большае таварыства для карыстаньня цэлым наборам машын і прылад.

Практыка паказвае, што ў добрых умовах з пасьпехам працуюць як тыя, так і другія таварыствы.

У мясцовасьцях, дзе машыны пашыраны мала, лепш арганізоўваць вялікія таварыствы дзеля супольнага карыстаньня наборамі машын і прылад. У мясцовасьцях-жа, дзе машына не зьяўляецца дзівам, больш будуць пашырацца дробныя таварыствы дзеля супольнага карыстаньня толькі асобнымі машынамі.

Напраўду гаспадару, які мае арфу ці малатарню, няма ніякай патрэбы ўваходзіць у таварыства, у якім ёсьць гэтыя машыны, але ён з ахвотаю запісаўся бы ў таварыства, каб там мог карыстацца, напрыклад, жаткаю, касілкаю, якіх у яго няма; у гэткім выпадку лёгка аб'яднаць у таварыства некалькі гаспадароў, якія маюць малатарні і хочуць карыстацца машынамі для прыборкі збожжа з поля.

Пры вылічэньні колькасьці машын і прылад на таварыства трэба прагледзіць гэту табліцу.

| Назва прылад і машын. | У адзін дзень зробіць. | Лік рабочых дзён у гаду | Гадавая праца (вытворчасьць). |
|---|---|---|---|
| Лугавы плуг . . . . . . . | 1/2 дзес. | 20 | 10 дзесяцін |
| Бароны і культыватары . . | 3 „ | 30 | 90 „ |
| Раськідны збож. сяўнік . . | 8 „ | 20 | 160 „ |
| Сяўнік для севу траў . . . | 3 „ | 6 | 18 „ |
| Радковы сяўнік (на 9 — 11 радкоў) . . . . . . . . . | 4 „ | 12 | 48 „ |
| Касілка, жатка і жаткасновязка . . . . . . . . . | 3 „ | 10 | 30 „ |
| Малатарня 2-х конная . . | 20 коп. | 70 | 1400 коп. |
| Малатарня 4 х конная . . . | 50 „ | 70 | 3500 „ |
| Арфа . . . . . . . . . . | 300 пуд. | 150 | 45000 пуд. |
| Сартоўка . . . . . . . . | 500 „ | 150 | 75000 „ |
| Трыер . . . . . . . . . . | 80 „ | 150 | 12000 „ |

Ведаючы агульную плошчу зямлі, якая знаходзіцца ў карыстаньні сяброў таварыства, будзе ня цяжка па гэтай табліцы вылічыць патрэбны лік машын і прылад дзеля работы ўсяго колектыву.

*З. В.*

## Лекарскія зёлкі.

У канцы траўня і праз чэрвень зьбіраем

### Кветкі:

**Шанты белай**—глухой крапівы (Lamium album), **Бэзу белага** (Sambucus nigra), **Братачкаў**—(Viola tricolor), Ліпы (Tilia), Румянкі (Matricaria-Chamomilla).

### З е л ь л е:

**Расходніку гароднага** (Glechoma hederacea), Баркуна жоўтага (Melilotus officinalis), Сардэчніка (Erythraea Centaurium), Загардушкі (Drosera rotundifolia).

### Л і с ь ц я:

**Бабоўніку**—інакш бабок — (Menyanthes trifoliata). **Крапівы** — (Urtica dioica), Палыну (Artemisia Absynthum).

### Я г а д ы:

Чарніцы або чорнай ягады (Vaccinium Myrtillus).

---

1) **Шанта белая.** — Расьлінка да 60 цм. вышыні, лісьця мае, як у крапівы: сэрцаватыя, загостраныя, груба-зубкаваныя. Цьвіце ад траўня да жніўня белымі кветкамі губаватай формы.—Расьце пад платамі, у равох, пры дарогах і на берагох лясоў.—Зьбіраюцца кветчаныя кароны праз увесь час красаваньня і сушацца ў цяньку, магчыма хутка, каб кветкі ня страцілі белага колеру. Упакоўваецца моцна ў шчыльныя скрынкі і перахоўваецца ў сухім месцы.—Запатрэбаваньне вялікае і цана даволі высокая.

2) **Бэз белы.**—Высокі куст з развіслымі галінамі. Лісьця мае няпарна-пярыстыя з лісточкамі яйцаватымі, загостранымі, зубкаванымі.—Кветкі белыя, дробныя, сабраныя ў плоскія падкружкі, красуюць ад траўня да ліпня.—Авац-ягады велічыні гарошыны, чорныя, круглыя, бліскучыя. Бэз белы расьце ў старых запушчаных садох, каля хатаў, платоў і г. д.

Добра расьцвіўшыя кветкі бэзу зьбіраюцца ў ясную, сухую пагоду асьцярожна, каб не памяць і развешываюцца ў цяньку на вяроўках, найлепш на гары ў хаце або пад паветкай. Сухія кветкі абкрышываюцца з кветаножак, перасяваюцца праз драцяное рэшата і перахоўваюцца ў сухім месцы. — Добра высушаныя кветкі бэзу павінны мець бела-жаўтаваты колер, пачарнеўшыя вартасьці ня маюць.—Вялікае запатрэбаваньне маюць таксама сьпелыя ягады бэзу, высушаныя ў печках пасьля хлеба.

3) **Братачкі.**—Невялічкая расьлінка ад 7-30 цм., расьце на межах, у лясох, але-ж найбольш і то цэлымі масамі на папарах і пожнях. Быльнік гладкі кантаваты, лісьця лянцэтаватыя меньш або больш зубкаваныя. Кветкі па адной на вяршках галінак, пяціпялёстыя заўсяды ў трох колерах: белым, жоўтым і філятовым з адценкамі, з якіх адзін пераважае.

Так, што бываюць кветкі і сьвятлейшыя і цямнейшыя і так пасобку трэба іх зьбіраць.—Цьвітуць ад траўня аж да восені. Сушацца або адныя абшчыпаныя кветкі, або ўся расьлінка, зрэзаная над зямлёю.—Сухое зельле вяжацца ў пучочкі гэтай-жа самай расьлінай.

6) **Расходнік гародні.**—Мае быльнік кантаваты, паўзучы з паднятымі ўгару галінкамі. Лісьця яйцаватыя, зубкаваныя, меньш больш кашлатыя. Кветкі губаватай формы сінія або фіалетавыя, рэдка белыя. Цьвіце ад красавіка да ліпня і тады зьбіраюцца лісьця і вяршочкі расьліны і сушацца ў цяньку.—Расьце расходнік у цяністых мясцох, у садах, гародах, пад платамі і т. д.

10) **Бабоўнік.** Расьце ў вялікім ліку на тарфовых балотах, па берагох рэчак і крыніцаў. Дарастае ад 15-30 цм. вышыні. Лісьця мае

трайчастыя з лісточкамі доўгімі яйцаватымі.—Кветкі ў даволі багатых кутасах, на высокім быльніку, сьветла-ружовага колеру з'яўляюцца ў траўні і чэрвені. Зьбіраюцца адно лісьця перад красаваньнем і сушацца ў цяньку.—Смак маюць вельмі горкі.—Запатрэбаваньне вялікае.

11) **Крапіва**. Яна так добра ўсім знаёмая, што апісываць німа ніякой патрэбы.—Для мэтаў лекарскіх зьбіраюцца: кветкі крапівы і паасобку лісьця бяз хвосьцікаў ад вясны да верасьня. Лісьця сушацца ў цяньку, каб ня страцілі колеру. Сушыць іх можна як найбольш, бо патрабуецца дзесяткі вагонаў.

Вясной і ўвосені можна зьбіраць карэньні крапівы і, добра ачысьціўшы, сушаць у печках. Ужываецца таксама ў мэдыцыні насеньне крапівы, сабраные ўвосені.

4) **Ліпа**.—Ліпаў маем некалькі гатункаў.

а) Ліпа вялікалістая расьце дзіка на Украіне і то паасобку; у нас гадуецца ў садах, парках, алеях, каля хатаў.—Цьвіце ў канцы чэрвеня.

б) Ліпа дробналістая, лісьця мае меншыя, чым папярэдняя, падысподам сінязялёныя, цьмяныя. Цьвіце на пару тыдняў пазьней. — Складае (?) яна цэлыя лясы ў некаторых губэрнях Расеі і ў нас у Меншчыне.

в) Ліпа серабрыстая мае лісьця падысподам серабрыстыя.

г) Ліпа амэрыканская. Называюць яе таксама чорнай, бо яе галінкі пакрытыя вельмі цёмнай карою. Лісьця мае вялікія да 15 цм. Цьвіце ў жніўні.

— Усе ліпы гэта грубыя і высокія дрэвы; дарастаюць да 30 мэтраў вышыні і больш. Жывуць ліпы вельмі доўга. Спатыкаюцца экзэмпляры, маючыя 700 і болей гадоў.

Усе ліпы маюць дробныя, жаўтаватыя моцна пахучыя кветкі з вялікімі кветчанымі прылістнікамі. З гэтымі-ж прылістнікамі кветкі зьбіраюцца і сушацца ў цяньку. Павінны захаваць магчыма найбольш натуральны колер.

Ліпавыя кветкі можна прадаваць вагонавымі партыямі.

6) **Рамонак** (румянак). Нашы гаспадыні часта яго гадуюць каля хатаў у гародчыках, але-ж спатыкаецца і дзіка растучы на ральлі і на папарах. Лісьця мае вузенькія, мягкія, падвойна-пярыстыя. Кветчаныя галоўкі выпуклыя, у сярэдзіне пустыя, абложаныя па берагох язычковымі белымі пялёсткамі, маець моцны прыемны пах. Зьбіраюцца самыя галоўкі бяз быльніка і сушацца ў цяньку. Перахоўваецца шчыльна зачынены.

7) **Баркун жоўты**. Расьліна двулетняя, лісьця мае трайчастыя з яйцаватымі, зубкаванымі лісточкамі. Кветкі матыльковыя, дробненькія, жоўтага колеру, сабраныя ў доўгія кутасы. Выступаюць ад чэрвеня да верасьня, і тады зьбіраюцца танчэйшыя галінкі з лісьцямі і кветкамі і сушацца ў цяньку. Сухое зельле мае вельмі моцны запах.

Расьце баркун пры дарогах, на межах, пад платамі гародаў. Дарастае да 150 цм. вышыні. Спатыкаецца часта баркун з белымі кветкамі, але той лекарскага значэньня ня мае.

8) **Сардэчнік** (цэнтурія, цьвінтарэй). Расьліна двулетняя, лісьця мае авальна-даўгаватыя, кветкі дробныя, пяціпялёстныя, ружовыя, сабраныя ў падкружкі. Дарастае да 15 — 30 цм. Расьце на ўзгорках папарах на лясных палянах, цьвіце ад чэрвеня да жніўня. Зьбіраецца ўся расьлінка толькі без карэньня, сушыцца ў цяньку, каб лісьця

і кветкі захавалі свой натуральны колер, і вяжацца ў пучкі. Уся расьліна мае вельмі горкі смак. Запатрэбаваньне вялікае.

9) **Загардушка**. Невялічкая, трывалая расьлінка; расьце на тарфовых балотах. Лісточкі мае круглыя на доўгіх хвосьціках, пакрытыя маленькімі жалёзкамі, якія выпускаюць з сябе ліпкі сок. З кожнай жалёзкі вырастае чырвоны валасок, што надае лісточкам чырванаваты колер. Калі на лісток загардушкі сядзе муха, або якая-небудзь другая дробная казюлька, валаскі загінаюцца, казюльку прыдушваюць, сок яе раскладае (разьядае) і расьліна сваю ахвяру высасывае. Дзеля гэтага загардушка належыць да расьлін мясаедных. Цьвіце яна ў ліпні і жніўні белымі, дробнымі кветкамі, сабранымі ў аднабочны каласок. Зьбіраюць або адныя лісьця бяз хвосьцікаў, або ўсю расьлінку ў часе красаваньня, старанна ачысьціўшы ад карэньчыкаў і моху. Цана высокая.

12) **Палын**. Усім добра знаёмая расьліна, вельмі горкага смаку з лісьцямі трайчаста-пярыстымі, шэра-зялёнымі і дробнымі жоўтымі кветкамі. Расьце на дарогах, межах, руінах, пад платамі і т. д. Лісьця палыну можна зьбіраць, пачынаючы з вясны. Асобна зьбіраюцца кветачныя галінкі, сушацца ў цяньку і сухія вяжуцца ў пучкі. Запатрэбаваньне надта вялікае.

**Чарніцы**. Невялічкі кусьцік да 30 цм. вышыні; з востра-граннымі зялёнымі галінкамі; лісточкі дробна-зубкаваныя; кветкі бела-зеленаватыя, зьвіслыя, сідзяць па адной у кутах лісьцяў. Цьвіце ў траўні. Расьце ў хваёвых і лісьцёвых лясах, займаючы, часам, вялікія абшары. Дзеля лекарскіх мэтаў зьбіраюцца сьпелыя ягады і сушацца ў печках пасьля хлеба, або ў спэцыяльных сушарнях.—Трэба вельмі зьвяртаць увагу, каб ягады ня прыгарэлі бо тады ня мелі б ніякай вартасьці. Перахоўваць сушаныя ягады трэба ў сухім мейсцы бо вельмі лёгка псуюцца. Прадаваць іх можна вагонавымі партыямі.

*З. В.*

## Натуральнае ці штучнае раеньне.

Надыходзіць самая важная ў пчалярскай гаспадарцы пара: раеньне, а ў кожнага меньш практычнага пчаляра паўстае пытаньне, якое раеньне лепшае: натуральнае ці штучнае?

У даўнейшыя часы інакшага раеньня, як натуральнае, ня зналі, а і цяпер старыя пчаляры інакшага не прызнаюць. Мала, аднак, з іх ня згодзіцца з тым, што чакаць натуральных раёў, ды сядзець цэлымі тыднямі ў пчальніку падчас раеньня, пільнуючы, каб пчолы не ўцяклі, лазіць за раямі па дрэвах, трацячы шмат часу на гэта, ня толькі што нявыгадна, але-ж нат часта зусім немагчыма дзеля недахвату гэтага-ж самага часу.

Сягодня, калі пчалярства зрабіла вялікі поступ, пчаляр мае магчымасьць прысьпяшыць, або прыпазьніць раеньне, або перавясьці яго штучна што пры гаспадарцы ў рамовых вульлях забірае вельмі мала часу. Спосабаў штучнага раеньня або дзяльбы пчолаў ёсьць вельмі многа. Апісываць іх ня буду, бо ў кожнай пчалярскай кніжцы знайсьці іх можна; скажу толькі, што яны ўсе надта лёгкія, што зьяўляецца іх дрэннай прыметай. Здаецца, гэта мо дзіўным, аднак так ёсьць папраўдзе. Шмат хто з непрактычных пчаляроў, мала азнаёмле-

ных з прыродай і з жыцьцём пчалы, папрабаваўшы, як лёгка робяцца штучныя раі, і гэтым павялічываецца яго пчальнік, дзеліць свае пчолы і дзеліць, не аглядаючыся ні на пару, ні на сілу раёў, і такім чынам марнуе і тыя раі, якія меў. Тымчасам, хочучы мець карысьць з дзяльбы пчолаў, трэба ўпярод добра пазнаёміцца з прыродай пчалы: сьлядзіць разьвіцьцё як паасобнай пчалы, так і цэлай сям'і, як суцэльнага арганізму.

Трэба перадусім уявіць сабе тое, калі сям'я бывае гатовай да дзяльбы? Гэта бывае тады, калі яна дойдзе да найвышэйшага пункту разьвіцьця, калі матка чэрыць у найбольшай меры сваей магчымасьці, а ў вульлі тысячы маладых, сьвежа вылупіўшыхся пчолаў не знаходзяць сабе адпаведнай працы. Як ведама, пчолы дзеля харчаваньня чарвы выробляюць у сваім вульлі з мёду, „пч. хлеба і вады гэтак-званая малачко". Працу гэту спаўняюць пчолы маладыя, якія на работу ў поле яшчэ ня выходзяць. Вось, калі ў вульлі такіх пчолаў вельмі многа і яны не знаходзяць чарвы дзеля гадаваньня, а „малачко" ў іх вульлі ўсё-ж-такі выробляецца, яны пачынаюць будаваць матачнікі. Матка ў іх чэрыць і як толькі вылупяцца малюсенькія чарвячкі — у будучыне маткі, маладыя пчолы групамі зьбіраюцца каля іх, кормяць і даглядаюць. Такім чынам кожная група што раз болей прывязываецца да сваей будучай маткі і гатова з ёю выляцець. У той час старыя, лётныя пчолы і тыя маладыя, што не прылучыліся ні да аднае групы, трымаюцца старой маткі. У такую пару, калі пчолы натуральна прыгатаваныя да раеньня, можна сьмела прыступіць да дзяльбы іх, спадзяваючыся, што гэта ўдасцца, не пашкодзіць пчолам, а пчаляру прынясе праўдзівую карысьць.

*Х. Пісаркоў.*

# Торф, як подсьціл для жывёлы.

Я думаю, што шмат якія сельскія гаспадары памятаюць ні адзін год, калі скаціну вясной даводзіцца падкармліваць ня сенам, а рэзкай з саломы, ды бывае што і рэзку няма з чаго рэзаць. А подсьціле-ж для скаціны і гаварыць няма чаго.

Ад недастачы подсьцілу ў хлеве, як вядома, бывае менш гною, а жывёла прастужваецца і хварэе.

Між тым, ёсьць магчымасьць захаваць салому на корм, калі на подсьціл скарыстоўваць замест саломы торф.

На Беларусі ёсьць шмат імшарных балот, якія пакрыты белым мохам, журавінамі, багульнікам, падбелам, верасам і інш. На аднэй дзесяціне такога балота па досьледах Горацкага вопытна-асушальнага вучастку кожны год нарастае каля 420 пуд. сухога моху. Сьцяблы моху кожны год згніваюць і ўтвараюць імшарны торф.

На подсьціл скаціны лепш усяго скарыстоўваць верхні насьціл імшарных балот. Торф у гэтым насьціле пульхны, нязгніўшы і добра ўцягвае ў сябе ваду. Адзін фунт такога торфу ўцягвае ў сябе 12-15 ф. вады; адзін-жа фунт саломы ўцягвае 4 фун. вады.

Здабываць тарфяны подсьціл можна проста рукамі, зьдзіраючы яго, як гэта робяць сяляне пры загатоўцы моху на пракладку і канапатку новых будынкаў.

Але ёсьць яшчэ лепшы спосаб здабываньня подсьцілу. Імшарнае

балота асушваюць адкрытымі канавамі, верхні насьціл балота разграбаюць жалезнымі граблямі або матыкамі і потым, пасьля прасушкі, гэты торф зграбаюць і звозяць у хлеў.

Калі плошча балота невялікая і трэба з яе атрымаць шмат торфу, то лепш не зграбаць яго з паверхні, а вырэзваць рыдлёўкай пліткі торфу, якія тут-жа на балоце сохнуць і потым звозяцца пад павець.

Перш, чым скарыстоўваць пліткі для подсьцілу, іх трэба пакрышыць і скарыстоўваць толькі ў сухім відзе.

Пад ногі жывёле трэба пасыпаць яго слоем у 3-4 вяршкі; калі гэткі подсьціл ужываецца першы раз, то трэба торф зьверху прысьціпаць тонкім слоем саломы, каб паступова прывучыць жывёлу к новаму подсьцілу.

Як толькі верхні насьціл подсьцілу ўтопчацца, трэба насыпаць новы слой торфу.

Тарфяны подсьціл лічыцца лепшым, чым салома: ён мякчэй саломы і многа ўцягвае вады і карысных для поля і шкодных для жывёлы газаў.

Гной з тарфянога подсьцілу бывае добрай якасьці: ён больш аднастайны і драбней саломянага; добра заворваецца і ўраджай ад тарфянога гною бывае лепшы.

Напрыклад, досьледы Запольскай дасьледчай станцыі далі такія вынікі:

| №№ дзялянак. | Угнаеньне | Колькасьць угнаеньня на дзес. | Ураджай жыта ў пуд. на дзес. | Розьніца ўраджаю на 1 дзес. супроць няўгноенай дзялянкі. |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Гной саломяны. | 2400 пуд. | 56 п. | 32 пуды. |
| 2 | Гной з торфу . | 2400 „ | 78 „ | 54 „ |
| 3 | Без угнаеньня . | — | 24 „ | — |

Акрамя таго, гной з тарфянога подсьцілу, як паказалі досьледы, мае лепшы ўплыў і на ўраджай наступных расьлін.

*Луиц.*

# Прыгатаўленьне тварогу.

Добры тварог патрабуецца на рынку і мае добрую цану. На нашы рынкі вырабляецца шмат тварогу, але больш 2 і 3 сорту. Гэта тлумачыцца няўменьнем прыгатаўляць у дробных гаспадарках і маслабойных заводах, дзе няма адпаведнага абсталяваньня.

Але і пры простым абсталяваньні можна зрабіць добры тварог першага сорту.

Для прыгатаўленьня тварогу неабходна мець цёплы пакой з тэмпэратурай ня менш 15-16° R., у якой можна было б квасіць малако.

Калі ёсьць драўляныя і мэталёвыя кадкі, то квасіць малако можна і ў менш цёплым пакоі, толькі трэба паміж сьценкамі кадак падліваць час ад часу гарачую ваду і такім спосабам падтрымоўваць патрэбную тэмпэратуру.

Калі квасяць малако ў драўлянай пасудзіне, то яе трэба трымаць у чыстаце: мыць з содай або распушчанай вапнай; ня шкодзіць і прамаражваць. Іначай сыракваша ня можа добра выварыцца і мае нядобры смак.

Каб скора сквасіць малако і каб твараг меў патрэбную квасласьць, неабходна заквашваць яго закваскай, а ў наступны раз можна ўжо карыстацца сыроваткай з-пад тварогу, калі яна добрая.

Закваску робяць так: бярэцца ў вядро малако, з якога зьняты жыр на сэпаратары. Вядро з малаком завязваецца і ўстаўляецца ў кадку з гарачай вадой 28° Р. Гэту тэмпэратуру трэба падтрымоўваць на працягу квашэньня. Праз 12 гадз. закваска гатова.

Закваску ўзбаўтваюць і льлюць да малака пры 28° Р. тэмпэратуры ў колькасьці 5 проц.

Праз 15-18 гадзін сыракваша гатова. Яна мае бліскучую паверхню і калі зачарпнуць, застаецца незаплыўшая ямка. Наагул сыракваша не павінна пузырыцца.

Каб мець слаісты твараг, трэба сырараквашу здымаць роўнымі пластамі ў круглы цэбар, каб не перамешваць.

Затым, цэбар устаўляюць у гарачую ваду, цяплыня якой не павінна быць больш 43-45° Р. Гэта падкрэсьліваецца для таго, што пры адварваньні твараг найчасьцей і псуюць.

Калі тэмпэратура пры адварваньні больш патрэбнай, то па краёх кадкі твараг прыгарае і ўсплывае напаверх у той час, як у сярэдзіне ён зусім халодны. Калі твараг у такім стане будзе гатавацца, то атрымоўваецца $^2/_3$ нягоднага з $^1/_3$ больш-менш здавальняючага.

Пры 43-45° цяплыні твараг гатовіцца праз $1^1/_2$—2 гадзіны, не прыгарае з бакоў і аднолькавы, як у сярэдзіне, так і па баках.

Вывараны твараг выкладаецца на стол, засьцелены посьцілкай, або ў кош, засьцелены марляй і, калі большасьць сыроваткі сьцячэ, тады накладаюць цяжар для канчатковага прасаваньня.

Лепш твараг адразу выкладаць у кош, бо потым ня трэба будзе перакладваць, а толькі зашыць і адправіць у горад. Тэмпэратура пакою, у якім выкладаюць твараг, павінна быць 8° Р. Пры большай тварог пачынае закісаць. На сярпянцы твараг ляжыць 10-12 гадзін, потым зьлёгку прасуецца і складаецца ў прызначаныя для адпраўкі кадкі, стараючыся не паламаць.

Каб рабіць запас тварогу, то для гэтага лепш твараг выкладаць на рэшата і, як сыроватка сьцячэ, класьці твараг у кадкі, стараючыся не ламаць пластоў; потым устаўляць у кадку кружок і моцна спрасаваць.

Прэс — няроўнаплечны падважнік, стрыжань якога ціснe на кружок. Як цяжар, вешаюць пудовую ці поўпудовую гіру або проста скрынку з каменьнямі.

У час прасаваньня ў кадках на паверхні тварогу выціскаецца шмат сыроваткі, якую зьліваюць, дадаюць у кадку тварогу і зноў прасуюць.

Пры такой прасоўцы пласты тварогу ня так крамсаюцца, за што ён асабліва цэніцца. Поўную кадку завязваюць і таксама адпраўляюць на рынак.

## УСЯЧЫНА.

„Што летам пад нагамі, то зімою пад зубамі" — кажа прыказка. Аб ёй павінны помніць нашы гаспадыні і старацца рабіць запас з усяго, што толькі магчыма.

Цяпер якраз настала ягадная пара. Ня буду гаварыць аб усялякіх „варэньях", бо гэта вымагае шмат цукру, значыцца дорага каштуе, але ўспомню аб такіх запасах, якія прыгатаўляюцца з вельмі малым клопатам і бяз ніякага кошту.

З раньніх ягаду найлепей да гэтага надаюцца чарніцы (чорныя ягады). Ёсьць іх у нас вельмі многа. Зьбіраюць іх масамі і ў месьце, дзе да яго блізка, а дзе далёка, прадаюць за вельмі нізкую цану перакупшчыкам ды па крысе сушаць. — Гэта ўсё добра, але-ж варта падумаць, якая гэта выгода для гаспадыні і радасьць для дзетак, калі зімою ёсьць чым памазаць кусок хлеба, або ў сьвяточны дзень абліць аладкі. А дзеля гэтакага ўжытку найлепшыя чарнічныя „павідлы".—Робяцца яны так. Ягады, сьпелыя, чыста перабраныя, сыплюцца ў белы чысты саган і варацца (без вады, бо яны з сябе шмат соку пускаюць). Павінны яны кіпець мінут 15—20. Пасьля выліць іх у вялікую міску, даць добра астынуць і халодныя наліваць у бутэлькі, (найлепш ад піва), закаркаваць і заліць коркі смалою, каб паветра не ўваходзіла. Перахоўваць у сухім, халаднаватым мейсцы.

Гэтак прыгатаваныя могуць захавацца аж да новых.

Бяручы да ўжытку, можна дадаць крыху мёду або цукру, каб былі салодзейшыя.

Хто хоча, можа ўсыпаць крыху цукру з ягадамі ў саган і разам варыць.

---

**Гарбата.** Ад часу вайны ўжываньне гарбаты (чаю) і кавы па вёсках вельмі распаўсюджываецца, толькі замест кавы п'юць цыкорыю, а гарбату, купляную ў маленькіх мястачковых крамках, хвальшаваную ў каторай часта няма, можа, ніводнага лісточка праўдзівай „гарбаты".

„Гарбата (Thea chinensis) гэта куст, дарастаючы да 10 м. вышыні ў дзікім стане, гадаваны—шмат ніжэйшы, бо яго зрэзываюць, каб выгадней было зьбіраць лісьця. Кветкі белыя, вялікія з прыемным пахам. Лісьця ўсе зялёныя, цёмныя, бліскучыя лянцэтаватай формы, параная ў печках, пасьля хутка высушаная расходзіцца з Кітаю, Явы і Бразіліі, дзе гарбата гадуецца вялікімі плянтацыямі—па ўсім сьвеце. Але-ж прадукт гэты ў добрым гатунку, не фальшаваны — даволі дарагі і ніколі ў рукі нашай вясковай гаспадыні не пападзе, дык замест піць часта шкодныя для здароўя фальсыфікаты, ляпей ужываць сваю краёвую „гарбату", якую можна прыгатаваць з розных зёлкаў. П'юць: чабор, ліпу, лісьця маліны, пялёсткі з кветак яблыні і г. п. Але-ж я раджу папрабаваць рабіць „гарбату" з лісьцяў пазёмкі (суніцаў). Робіцца яна так: чыста сабраныя маладыя лісьця палажыць у гліняную пасудзіну, шчыльна прыкрыць накрыўкай і паставіць у печ разам з хлебам. Лісьця там парацца аж пацямнеюць; пасьля іх кладуць на бляхі або рэшата і моцна высушываюць, каб аж зарумяніліся — і гатова. Такая „гарбата" вельмі здаровая і смачная, а калі піць яе ня з цукрам, а з мёдам ад уласных пчолаў, то нічога не каштуе. Для лепшага запаху добра разам з лісьцямі сабраць крыху кветак гэтых-жа паземкаў, і разам высушыць.

**Сава і канюшына.** Як ня дзіўна — цесна іх жыцьцё паміж сабой зьвязана.

Як ведама, кожная кветка, каб выдаць насеньне, мусіць быць запылена. У запыленьні расьлін памагаюць: вецер, пчолы, чмялі і другія мошкі, якія жывуць салодкім сокам кветак.

Канюшына, хоць вельмі мёдадайная, пчоламі запыленай быць ня можа, бо мае вельмі доўгія кветчаныя чарачкі, жалёзкі, што выдзяляюць салодкі сок, знаходзяцца на самым іх дне, а пчолы сваімі кароткімі трубачкамі дастаць іх ня могуць.

Дзеля гэтага канюшыну запыляюць амаль ня выключна чмялі (за выняткам канюшыны белай і ружовай, або швэдзкай, якія, маючы меньшыя кветкі, запыляюцца і пчоламі) значыцца, дзеля добрага ўраджаю насеньня канюшыны мусіць быць у полі адпаведны лік чмялёў. І хапала-б іх заўсёды; але-ж маюць яны сваіх ворагаў, якія зьнішчажаюць іх гнёзды і маладое патомства. Гэтымі ворагамі зьяўляюцца польныя мышы, ласыя на чмяліны мёд і чарву.

У гэтым выпадку кожнаму гаспадару ідзе аб тое, каб мышаў было як найменш. Самым лепшым памошнікам чалавека ў барацьбе з мышамі ёсьць—сава.

І так: чым больш соваў, меньш мышаў, меньш мышаў—больш чмялёў і лепшы ўраджай насеньня канюшыны.

— Не забівайма і не зьнішчажайма соваў, бо яны ня ворагі нашы, а прыяцелі.



Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.